# Ніва

ISSN 0546—1968
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 36 (1582) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 7 ВЕРАСНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.



## 35 год з Gazeta Współczesna

„Газеце Вспулчэснай“ 1 верасня 1986 года споўнілася 35 гадоў. Цяперашні яе галоўны рэдактар, **Мечыслаў Хая**, працуе ў гэтым дзённіку Польскай аб'яднанай рабочай партыі ад пачатку яго існавання.

Таму менавіта звярнуліся мы да яго, каб па-сяброўску пагутарыць аб юбілеі газеты.

**„Ніва“:** Прашу прыняць самыя сардэчныя віншаванні з нагоды юбілею „Газеты вспулчэснай“. Жадаем усяму калектыву нашай супольнай „Газеты...“ далейшага паслядоўнага расчышчэння дарогі дзеля паспяховага ажыццяўлення праграмы партыі і пастаяннага адлюстроўвання самых істотных патрэб як жа разнароднай грамадскасці паўночна-ўсходніх старонак нашай краіны.

**Мечыслаў Хая:** Шчыра дзякую за пажаданні. Асабліва прыемна мне пачуць, што і вы лічыце „Газету вспулчэсную“ нашай супольнай газетай. Найважнейшым у нашай працы, мяркую, лічыць трэба тое, што ўсе сродкі масавай камунікацыі, значыць, і „Газета“, і „Ніва“ ды іншыя прэсавыя органы служаць, як могуць і маюць магчымасці, адной і той жа высакароднай мэце: каб лепш нам жылося, каб спакойна маглі мы глядзець у сваё мірнае заўтра, каб людзі і тут, у нашым рэгіёне, лепей разумелі адзін другога.

**„Ніва“:** Як лёгка палічыць, паявілася дагэтуль амаль 11 тысяч нумароў „Газеты вспулчэснай“, якая пераняла спадчыну ад „Газеты беластоцкай“. Гэтыя тысячы старонак задрукаванай паперы амаль поўнасцю прахо дзілі праз твае рукі. Як усё гэта пачалося? Як стваралася „Газета“? Як яна прывівалася і ўрастала ў гэтае складанае асяроддзе? Хто, якія людзі яе стваралі?

**Мечыслаў Хая:** Кожная газета — гэта вынік супольнай працы ўсяго рэдакцыйнага калектыву. Праўда, я ў гэтым калектыве знаходжуся ад першага нумара „Газеты“. Дык з поўнай адказнасцю і з вялікім задавальненнем магу сказаць, што ў кожным яе нумары асталася нейкая часцінка маёй працы, маіх думак, хістанняў, маёй душы...

А як гэта пачалося? Былі мы на 35 гадоў маладзейшыя, краіна перажывала энтузіястычны ўздым адбудовы сваёй гаспадаркі, знішчанай вайной. І нам хацелася прыняць дзейсны ўдзел у гэтым усенародным пачыне. Сэрцы кіпелі энергіяй. Ніхто з нас не азіраўся ні на матэрыяльныя выгады, ні на асабістую нажыву. Было, памятаю, гарачае лета 1951 года. Разам з іншымі выпускнікамі Ягелонскага універсітэта накіравалі мяне ў Беласток. Тады яшчэ абавязваў закон аб планавым размеркаванні кадраў. Беласток быў ладшчэнту знішчаны і лічыўся глухой правінцыяй, куды мала хто хацеў ехаць. Горад ляжаў яшчэ ў руінах. Людзі баяліся мядзведзяў, якія, казалі, хадзілі тут па вуліцах. З нашай „кракаўскай“ шасцёркі, накіраванай на працу ў „Газеце беластоцкай“, асталіся тут толькі двое: я і Станіслаў Мадэй.

**„Ніва“:** Хто быў першым вашым шэфам?

**Мечыслаў Хая:** Першым шэфам быў Стэфан Паўлята. Але ён прыйшоў крыху пазней, калі закончыў падрыхтоўчы курс для журналістаў. Найперш працу рэдакцыйнага калектыву і першыя пробныя нумары „Газеты беластоцкай“ (ад 1 жніўня 1951 года) арганізаваў **Мечыслаў Францішак Ракоўскі**, той самы, які цяпер з'яўляецца віцэ-маршалкам Сейма ПНР. Першы нумар „Газеты беластоцкай“ пайшоў да людзей 1 верасня 1951 года.

**„Ніва“:** Кажуць, што газета з'яўляецца хронікай шэрай штодзённасці. Калі, аднак, гэтых шэрых дзён назбіралася столькі, што склалі яны 35 гадоў, дык

(Працяг на стар. 5)




## АДКАЗ НА „ПАКАЗ“ (НЕПРЫДУМАНЫ)

Перш за ўсё хачу падзякаваць Кастусю Сідаровічу за водгук „Паказ добры і... непрадуманы“ у „Ніве“ ад 17-га жніўня г.г. Гэта я, так сказаць, найбольш вінаваты ў гэтым „паэтычна-вадэвільным паказе беларускай творчасці“ (як жа пафасна назваў К. Сідаровіч агляд самадзейных драматычных гурткоў у час Свята беларускай культуры 14 чэрвеня ў Беластоку!). Выказванні і заўвагі яго паказваюць на тое, што не ведае ён рэальных абставінаў, звязаных з тэатральнай самадзейнасцю. Занадта часта мы ўмеем прадумана ўзяць голас (вядома: моцныя мы ў языку!) і падзяліцца сваімі... прыдуманымі сумненнямі.

Так склалася, што мне давялося „і двоіцца і троіцца“, каб неяк адрадзіць бэгакатоўскія агляды тэатральных гурткоў. Меў я магчымасць зблізку пабачыць рэчаіснасць і таму хачу цяпер узяць голас.

Святкуем вось юбілей трыццацігоддзя Беларускага таварыства ды „Нівы“. У мінулым самадзейны тэатральны рух уяўляў сабою адну з прыгажэйшых старонак дзейнасці таварыства, быў нават яго вядучай формай. Пад канец шасцідзесятых гадоў на агульную лічбу сямідзесяці аматарскіх калектываў было больш шасцідзесяці драматычных, тэатральных. Затым, паступова, іх колькасць змяншалася і дайшло да таго, што ў пачатку васьмідзесятых гадоў сяк-так дзейнічаў толькі **адзін** тэатральны калектыў — беластоцкі пад кіраўніцтвам Янкі Крупы. БГКТ перастала праводзіць і агляды іх, вядома.

У чым маглі быць прычыны такога заняпаду? Іх, прычынаў тых, нямала, але ці можна было пагадзіцца з такім становішчам? Аказваецца, можна, бо неяк ніхто не нерваваўся гэткім станам справаў. Ніхто не намагаўся аднавіць заняпалае, прадоўжыць вартасную культурную традыцыю. На шчасце, народ наш не такі самазадаволены, і пачалі сям-там аднаўляцца тэатральныя гурткі. То ў Семяноўцы, то ў Дашах, то ў Піліпках ці ў Паўлах. А можа быць іх значна больш, калі б помач якую ім аказаць... Ды ахвотных дапамагчы не відаць. Бракуе інструктароў, бракуе беларускага рэпертуару, адпаведнага для ўмоў такой дзейнасці ў нас. Ка-

(Працяг на стар. 5)




## АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ — (XXXIII)

Адным з найпрыгажэйшых праяваў беларускага нацыянальнага руху ў Польшчы з'яўляецца літаратурны рух, які нарадзіўся пры „Ніве“ і з цягам часу далучыўся да Галоўнага праўлення БГКТ. Калі сёння гартаю нумары „Нівы“ з 1956—57—59 гадоў, дык на яе пажоўклых старонках знаходжу прозвішчы паэтаў і празаікаў, якія, як самародкі, заблішчэлі на тагачасным, здавалася б, пустынным грунце. Як жа ўраджайнай аднак мусіла быць глеба, якая ж творчая патэнцыя існавала ў беларускай нацыянальнай меншасці, калі так гвалтоўна „з нічога“ пачалі вырастаць літаратурныя постаці. На жаль, як гэта бывае ўсюды і заўсёды, многія нават і вельмі дынамічныя, модныя і папулярныя тагачасныя беларускія аўтары прапалі бясследна з нашага літаратурнага палетка. Для прыкладу, з якімі свечкамі можна сёння знайсці ў нашым літаратурным руху такія папулярныя калісьці прозвішчы, як Вацік Сіповіч або Васіль Баршчэўскі?! І нягледзячы на тое, што аўтары гэтыя прапалі бясследна, іх роля ў разбуджэнні беларускай літаратурнай патэнцыі была аграмаднай. Часта маладым аўтарам здаецца, што хто як хто, але яны нікому нічога не вінаваты, бо яны нарадзіліся самі з сябе. Гэта безадказная і фальшывая самаўпэўненасць. Хаця ў літаратуры ёсць заўсёды многа самародкаў, то ўсё-такі няма самародства. Кожны з пісьменнікаў мае сваіх літаратурных бацькоў. А нашы бацькі гэта якраз тыя, хто трыццаць гадоў таму назад кідаў у „Ніву“ першыя зерні. Зрэшты, на шчасце, не ўсе з тых, хто ўжо ў першых нумарах „Нівы“ заявіў аб сваёй літаратурнай прысутнасці, бясследна загінулі. Захавалі да сёння творчую дынаміку і Сакрат Яновіч, і Віктар Швед, і многія іншыя. Варта адзначыць, што гэтыя ветэраны не топчуцца на адным месцы і не паўтараюць самі сябе. Наадварот, з сапраўдным маладзёжным запалам шукаюць усё новыя формы і сродкі мастацкага выяўлення.

Нялёгка быць меншасным беларускім пісьменнікам. Гэта, на жаль, не тое самае, што быць пісьменнікам польскім. У чым справа? У тым, што для польскага пісьменніка творчасць з'яўляецца не толькі формай духоўнага ўзлёту і экзальтацыі, але і крыніцай матэрыяльнага ўтрымання. Беларускі аўтар, пішучы творы, праяўляе сябе толькі духоўна і не запэўнівае сабе матэрыяльнай карысці. Калі б так беларускія аўтары, як гэта не раз бывала ў гісторыі, былі арыстакратамі, на якіх працавалі тысячы людзей, дык маглі б сабе дазволіць на безэквівалентную творчасць. Аднак так не ёсць, кожны з іх — сын селяніна, рабочага ці нейкага там служачага, і не думаю, каб былі ў іх мяшкі грошай. У такой сітуацыі пазбаўленне беларускіх аўтараў ганарараў, што здарылася два гады таму назад, было формай удару сякерай у карэнні беларускага літаратурнага дрэва. Прывяду пераканаўчы прыклад. Калі б мой зборнік „Блізкасць далёкага“ быў напісаны па-польску, я за яго атрымаў бы каля ста пяцідзесяці тысяч злотых. У сувязі з тым, што ён напісаны па-беларуску мой ганарар раўняецца нулю. У такой сітуацыі апынуліся ўсе беларускія аўтары ў Польшчы. Скажыце, ці ж тое, што яны далей пішуць па-беларуску, не сведчыць аб узнёсласці іх нацыянальнага духа? На жаль, тут нацыянальнае не знаходзіць падтрымкі ў дзяржаўным.

**Алесь Барскі**




### ДЗЕЛАВЫЯ КАНТАКТЫ

Расшыраецца і мацнее супрацоўніцтва дарожнікаў Беларусі з французскай фірмай „СЕКА“, якая займаецца пытаннямі вырабу будаўнічых матэрыялаў для дарожнага будаўніцтва.

Дэлегацыі Міндарбуда БССР і фірмы „СЕКА“ ўжо неаднаразова абменьваліся візітамі, сумесна працавалі ў навукова-даследчых цэнтрах, праводзілі доследна-эксперыментальныя работы.

Асабліва цесны дзелавы кантакт падтрымліваюць абодва бакі ў рабоце па атрыманню новых высокаэфектыўных і эканамічных матэрыялаў для дарожнай вытворчасці.

### НОВЫЯ ВЕЛАСІПЕДЫ

Аднолькава практычныя і ў горадзе, і ў вёсцы новыя дарожныя веласіпеды, серыйны выпуск якіх пачаты на мінскім мотавелазаводзе. На іх можна не толькі ездзіць на работу, рабіць прагулкі, але і перавозіць даволі вялікія грузы. Двухколавая машына камплектуецца двума багажнікамі — спераду і ззаду, на павышаныя нагрузкі разлічаны асоба трывалыя рама і колы. Спецыяльная металізаваная фарба надзейна засцерагае веласіпед ад карозіі, забяспечвае прывабны вонкавы выгляд. З улікам пажаданняў пакупнікоў на прадпрыемстве ў хуткім часе маюць намер асвоіць таксама выпуск грузавых і „сельскіх“ матацыклаў, многаскарасных веласіпедаў.

### СПЕЦЫЯЛІЗАВАНАЯ ДАПАМОГА НА ВЁСЦЫ

Абслугоўваць сельскіх працаўнікоў пачалі спецыялісты стаматалагічнага аддзялення, якое адкрылася ў Пінскай гарадской шматпрофільнай міжраённай бальніцы. Сюды накіроўваюцца для стацыянарнага лячэння пацыенты з Пінскага, Столінскага, Лунінецкага і Іванаўскага раёнаў.

За апошнія гады значна расшырылася і якасна палепшылася сетка стаматалагічных лячэбных устаноў у гарадах і вёсках Брэстчыны. Развіваецца спецыялізаваная лячэбная дапамога насельніцтва. Каля 120 стаматалагічных кабінетаў абсталявана на вёсцы. На гэтыя мэты выкарыстоўваюцца дзяржаўныя капітальныя ўкладанні, сродкі сацыяльна-культурных фондаў прамысловых прадпрыемстваў, будаўнічых арганізацый, калгасаў і саўгасаў. У многіх гаспадарках Палесся створана ўласная служба аховы здароўя.

### ВЯРНУЦЬ БЫЛУЮ ЧЫСЦІНЮ

Як вярнуць Свіслачы былую чысціню, зрабіць яе паўнаводнай і празрыстай? Комплексную праграму вырашэння гэтага пытання распрацавалі супрацоўнікі Беларускага навукова-даследчага санітарна-гігіенічнага інстытута. І многа з намечанага вучонымі ўжо зроблена: удасканалены метады ачысткі сцёкавых вод, у Свіслач перакінута частка сцёку ракі Віліі. А ўкараненне ажыццёўленых сумесна з Мінскай гарадской санэпідэмстанцыяй распрацовак палепшыла якасць і біялагічнае самаачышчэнне воднай артэрыі, якая служыць мінчанам выдатнай зонай адпачынку з сістэмай паркаў, бульвараў, каскадам штучных вадасховішчаў.

Яшчэ нядаўна Свіслач была ў крытычным стане. Многія дробныя прадпрыемствы скідвалі ў яе неачышчаныя воды, і ў выніку канцэнтрацыя шкодных рэчываў стала высокай. Цяпер становішча палепшылася. У бягучай пяцігодцы будуць пабудаваны так званыя ліўневыя ўлоўнікі, павялічацца магутнасці ачышчальных збудаванняў.

### СПОРТ

✲ На чэмпіянаце Еўропы па водналыжнаму спорту, які закончыўся ў Лінкольне (Вялікабрытанія), выдатна выступілі прадстаўнікі Беларусі. У спаборніцтвах па фігурнаму катанню на водных лыжах тытул чэмпіёнкі кантынента ўпершыню заваявала мінчанка Марына Амяльянчык. Набраўшы 6.460 ачкоў, яна апярэдзіла вопытных саперніц М.П. Сеньёр з Францыі і рэкардсменку свету Н. Румянцаву з Падмаскоўя. Яшчэ адзін выхаванец беларускай школы водналыжнага спорту Дзмітрый Яскевіч атрымаў на гэтых спаборніцтвах бронзавы медаль.

✲ Прыз за агульнакамандную перамогу — „Кубак нацый“ заваявалі савецкія фехтавальшчыкі на чэмпіянаце свету, які закончыўся ў сталіцы Балгарыі Сафіі. Напомнім, што сярод рапірыстаў выступаў праслаўлены мінскі „мушкецёр“ пяціразовы чэмпіён свету Аляксандр Раманькоў.




### ШПІЯНАЖ У СВЕЦЕ РУХАВІКОЎ

Сёння ў структуры буйнейшых аўтамабільных манаполій дзейнічаюць спецыяльныя аддзелы, якія займаюцца шпіянажам і контршпіянажам.

З большай стараннасцю, чым дзяржаўныя тайны, карпарацыі ахоўваюць праекты і эскізы новых аўтамабіляў. У тэхнічныя цэнтры — святая святых аўтамабільных манаполій — дапускаюць строга вызначаную колькасць асоб. Нават спецыялісты, якія там пастаянна працуюць, не маюць права свабодна рухацца па тэрыторыі. Унутры цэнтра існуюць розныя пропускі, якія забяспечваюць доступ у пэўныя сектары і толькі адзінкі — кіраўнікі праектаў — маюць доступ ва ўсе аддзелы.

Адным са старанна ахоўваемых аб'ектаў аўтамабільных карпарацый, акрамя тэхнічных цэнтраў, з'яўляюцца аўтадромы. Уся іх тэрыторыя акружана высокім непрыступным плотам, уздоўж якога патрулюе ўзброеная ахова. З унутранага боку пасаджаны дрэвы і кусты, каб засланіць аўтадром ад цікаўных. У апошнія гады ў час выпрабавання новых мадэляў у паветра падымаюцца верталёты, каб ахаваць іх і з гэтага боку. Вядомы выпадкі, калі аўтамабільныя манаполіі ЗША выкарыстоўвалі аэрафотаздымку, каб даведацца пра тайны канкурэнтаў. Усё, як у сапраўднай вайне: даныя лазутчыкаў выкарыстоўваюць, каб удакладніць даныя паветранай разведкі.

Транснацыянальныя карпарацыі ва ўсіх рэгіёнах свету, у якіх яны маюць свае інтарэсы, звяртаюцца да скрупулёзнага аналізу прадукцыі канкурэнтаў, каб устанавіць сапраўдную цану і якасць сваёй прадукцыі. Усе прамысловыя манаполіі маюць строга засакрэчаныя лабараторыі, у якіх параўноўваюць якасць, прадукцыйнасць і надзейнасць сваіх машын з машынамі канкурэнтаў. У гэтых лабараторыях разбіраюць кожны вузел і агрэгат уласных аўтамашын і аўтамашын канкурэнтаў, каб аб'ектыўна параўнаць іх і высветліць сапраўдны стан спраў.

Хібы сваёй прадукцыі дакладна вывучаюцца. А затым канструктары і інжынеры шукаюць шляхі іх ухілення, калі гэта абяцае эканамічныя выгады.

Калі ў час Пінкертона сышчыку прыходзілася выследжваць аб'екты назірання на вуліцах, падпільноўваць ля пад'ездаў дамоў, падглядваць у замочныя шчыліны, то сучасныя пінкертоны выкарыстоўваюць для гэтых мэт апошнія дасягненні навукі і тэхнікі: мінімікрафоны, ці „жучкі“ на прафесіянальным жаргоне, могуць быць тайна ўстаноўлены ў офісах і кабінетах, дзе абмяркоўваюцца тэхнічныя ці камерцыйныя тайны.

Жорсткая канкурэнцыя за вынікі збыту прадукцыі, сферы прыкладання капіталу і імкненне да атрымання максімальных прыбыткаў вымушаюць кіраўніцтва карпарацый уважліва сачыць за дзейнасцю сваіх канкурэнтаў і з прычыны вышэйпералічанага — перш за ўсё за еўрапейскімі і японскімі канцэрнамі. З гэтай мэтай ствараюцца спецыяльныя органы, якія займаюцца здабываннем, вывучэннем і аналізам матэрыялаў аб палітычным, эканамічным і сацыяльным становішчы ў еўрапейскіх краінах, Японіі, Паўднёва-Усходняй Азіі. Адным словам, там, дзе аўтамабільныя манаполіі маюць свае інтарэсы.

Канкурэнцыя, з аднаго боку, прымушае карпарацыі ствараць усё больш сучасныя машыны, з другога — стымулюе шпіянаж у свеце рухавікоў, які набывае ўсё больш шырокія маштабы.

**Р.Т.**

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 327

# САКРАТУ ЯНОВІЧУ–50



Сакрат Яновіч — пісьменнік шырокамаштабны: празаік ён, і паэт, і драматург, эсэіст і публіцыст, а нават перакладчык (з беларускай мовы на польскую і з польскай — на беларускую). У яго падвойны юбілей — нарадзіўся ён 4 верасня 1936 года ў Крынках, а як пісьменнік — дэбютаваў на старонках „Нівы" ў месяцы маі 1956 года, будучы адначасна адным з першазакладчыкаў гэтай газеты.

Для парадку пералічу яго важнейшыя кніжкі: „Загоны" (Беласток, 1969 г.), „Wielkie miasto Białystok" (Варшава, 1973 г.), „Зборнік сцэнічных твораў" (Беласток, 1976 г.), „Не пашанцавала" (Беласток, 1978 г.), „Zapomnieliska" (Вроцлаў, 1978 г.), „Сярэбраны яздок" (Мінск, 1978 г.), „Ściana" (Ольштын, 1979 г.), „Samosiej" (Варшава, 1981 г.), „Male dni" (Варшава, 1981 г.), „Trzecia pora" (Беласток, 1983 г.), „Srebrny jeździec" (Варшава, 1984 г.), „Miniatures by Sakrat Janovič" (Лондан, 1984 г.), „Białoruś, Białoruś" (Варшава, 1986 г.).

Удадатак шэраг твораў С. Яновіча выйшла ў выглядзе кніжнага выдання ў суаўтарстве, як успомнены „Зборнік сцэнічных твораў", у якім апублікаваны таксама дзве п'есы Юркі Геніюша, або эсэ „W białostockiej krainie", надрукаванае сёлета стотысячным тыражом у вядомым варшаўскім выдавец-

(Працяг на стар. 4)

## ВЕРНЫ РОДНАМУ

*„Веру ў жыццё, смерць яго і ўваскрашэнне.*
*І ў вечнае, бо бязмежнае.*
*І ў чалавека.*
*І ў свет —*
*веру!"*

Так пачалося маё знаёмства з творчасцю Сакрата Яновіча. Быўшы тады вучнем сярэдняй школы ў Беластоку, мне, як хлапчуку з беларускай правінцыі ў горадзе, запамяталіся гэтыя словы свойскімі ды вялікімі. Тады не звяртаў я ўвагі на тое, хто быў іх аўтар. Толькі адчуваў я гордасць, што напісаў іх беларуска-беластоцкі пісьменнік. Са зместам гэтай мініяцюры — яе загаловак: „Веру" — хацелася пазнаёміць сваіх калегаў-палякаў, у доказ нашай тут, беларускай прысутнасці.

Затым гэтыя мініяцюры — „сакрацікі" вучылі мяне пашане і любові да роднага. Усведамлялі яны мне прыгажосць таго „прыгумення зялёнага", тых „загонаў жыцця", тае „кроплі блакіту ў жытнёвым узмежку..." Выклікалі задуменне над каштоўнасцямі акружаючай рэчаіснасці. З часам я штораз больш знаёміўся з творамі Сакрата Яновіча, які сёлета адзначае трыццаць гадоў сваёй літаратурнай працы і пяцьдзесят год жыцця.




Пасля вайны вялікае мы школы паканчалі заядла і, усе да апошняга, дарослымі ўраз зрабіліся. І на работу ў гарады трамваезвонныя ды з тратуарамі франтаватымі, бы на фэст які вясялісты пайшлі-паехалі. Грошы свае ж мелі, яшчэ з малаком на губах будучы, во дзіва цуднае было нам над дзівамі! Так працавалі там і ў якія толькі хочаш змены, што сам Сізіф той пры нас гультаём здаўся б.. Не з аднаго страху парабка, што маўклівым кватарантам сноўдаўся ў кожным з нас, — а каб не турнуў хто на галытву тую бацькоўскую назад. За шанц жыць потым, як у байцы, браліся сутаргава, неадчэпна.

Мы палічылі, што мінулае сваё басаногае, дзякваць Богу, у дурнях пакінулі спрытна. Таму сэнс усякі без нас або не ў нашым новаздабытым уявіўся тады да абсурду немагчымым, часам няхай сабе смешным усяго да сакатлівага рогату. Маці задрыпаная з бацькам зацюканым, усё роўна што памылка несусветная лёсу людскога, у глухамані забеластоцкай беспатрэбна гароўна карпелі. Свет цэлы не бачыў чатосьці такога з маладымі ды й найстарыя са старых не зведалі аніколі. Як жа лёгкакрыла ішлося ў часы тыя і ў нагу несумненна жа ж!

Ой, стараліся мы ды перастараваліся, не ў прыклад кажучы быццам дзеці малыя, якім цацк за тое навюткія і фабрычныя. нікім не кранутыя, далі на свята прычаканае ўрэшце. Ў захапленні гэткім ад таго, ажно да першабытнага самазабыцця зацьменнага, у якім год за годам нам гады замігацелі ўваччу на падабенства лікаў тых выйгрышных на рулетцы нейкай азартнай. Стаўкі тадышнія на карту нашу запаветную дазвалялі пакуль на няшмат, спачатку на абноўку чаравічную, а потым і на касцюмную, з зашпількамі фарсістымі-серабрыстымі. Ну й разжыліся ж радасна і сяк ды так на мэблю бліштчачую і на кватэры жаданыя з пакоямі гардзікна-шырокаваконнымі. А й унучанятамі, як анёлкамі, дзеда з бабкай з рукамі парэпанымі пацешылі мы па-панску для шыкоўнасці пал

(Працяг на стар. 4)



Графіка У. Петрука.

## ПАЭТ З КРЫНАК

*„Хворым не шукаць праўды. Таму лекары ашукоўваюць іх з чыстым сумленнем. Праўда можа забіць. Найважнейшае: жыць, жыць, жыць, колькі ўдасца!*

*Пытанне толькі: як? Як жыць? Якой цаною?*

*Вечнае пытанне."*

(С. Яновіч, „Пра найважнейшае")

Пра Сакрата Яновіча і ягоную творчасць напісана вельмі шмат. Кожная выдадзеная кніжка Яновіча выклікала жывое зацікаўленне сярод крытыкаў літаратуры, пісьменнікаў. Часта польскіх. І нічога ў гэтым дзіўнага. Склалася так, што маем творы Яновіча ў перакладзе на польскую мову, але не маем усяго з яго творчасці на мове арыгіналу.

Мініяцюры здабылі шырокі водгук і пазітыўную ацэнку як сярод знаўцаў літаратуры, так і сярод чытачоў, чытаючай публікі.

Польскі выдавецкі рынак зрабіў тут шмат. Не толькі наш, беластоцкі чытач, але і наогул польскі мае магчымасць пазнаёміцца з творчасцю „беларускага Бабеля".

У чым моц і прыцягальнасць твораў Сакрата Яновіча?

На маю думку, якраз у пастаўленым аўтарам „Загонаў" самым галоўным з галоўных пытанні: як жыць? Якой цаною?

Для мяне Сакрат Яновіч гэта паэт. Паэт аднае тэмы. Арыгінальны паэт. Паэт паслядоўнасці. Яго тэма: **Чалавек. Чалавек і свет.**

Здавалася б, тэма не новая. Ад пачатку свайго літаратура корміцца гэтай тэмаю.

Але аўтар „Сцяны" мае здольнасці вопытнага хірурга, які зрабіў трапна дыягноз пацыенту і скальпелем-пяром указвае на хворыя месцы.

А гэтых хворых месц у сучасніка не так ужо і мала. Часта ставіць Яновіч дыягноз: арганізм пацыента паддаўся хваробе і няма ўжо яму ратунку...

А гэтая хвароба: самаадрачэнне ад сябе, ад сваіх ідэалаў, каб жыць сыта і цёпла. І столькі.

Аўтар „Самасея" глыбока спазнаў жыццё, яго галгофу і заканамернасці. І ведае ён цану гарадскому „авансу". Гэты „аванс" ёсць трывіяльны, часта з вульгарным сэнсам у ім (жытло, пасада, аўтамашына і... што далей?).

І тут аўтар „Малых дзён" няраз пытае: што здарылася з ментальнасцю, з псіхікай людзей ужо „цвёрдых", „загартаваных" у штодзённай грызні за большы кавалак хлеба, за „даўжэйшы злот" сабе?!

Яновіч бясконца кідае сваіх герояў у пэўныя выбары, жыццёвыя выбары. Важныя. Маральныя, этычныя. І аказваецца, што ўсяго нямногія, усяго некаторыя (як Сцяпан Сумленевіч) перажываюць балючыя дылемы, хістанні. Сумненні ў зробленым ці намераным.

Аўтар „Забыццяў" аддае пашану тым, якія не скрывілі душою, цэняць уласную годнасць, псіхічную суверэннасць. Яны ў пошуках сэнсу жыцця, сваёй рэлігіі, свайго Бога жывога чалавека (з Чэхава).

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар. 3)

# ПАЭТ З КРЫНАК

Сакрат Яновіч гаворыць: сапраўдны чалавек гэта чалавек ідэі.

А гэтая ідэя — чалавечнасць. І пашана да роднага.

На гэты аспект творчасці звярталі ўвагу не раз польскія пісьменнікі, польскія крытыкі літаратуры Генрык Бэрэза, Зыгмунт Тжышка, Ян Куравіцкі, Віктар Варашыльскі і інш.

Ёсць жа і яшчэ адзін важны аспект тут: аўтар „Загонаў“ і „Трэцяй пары“ ненавідзіць горад! Гэта значыць — ненавідзіць пусты бліхтр, усю непатрэбшчыну паказацца перад так званымі людзьмі, драбноту такога існавання. Ненавідзіць ён усё тое, што так хутка і прагна прымаюць прыстасаванцы ў „вялікіх гарадах“, выракаючыся існасці самога сябе і рубаючы самагубна па сваіх карэннях.

Яновіч добра ўсведамляе непазбежнасць гэтага працэсу, яго трагічнасць. Без трагічнасці не бывае сапраўднай літаратуры, скажам і так.

*„Дагэтуль вялікія войны выклікалі вялікія змены. Калі грамадствам сталі і сяляне, пайшлі яны, вядома, следам за панамі, пакідаючы зямлю. А кар'еры іх, як і яны самі, — парабіліся начнымі старажамі гэтыя нядаўнія гаспадары, а іхныя жонкі — прыбіральніцамі; дзеці ж, паканчаўшы ўжо школы, валакуць да сябе ўсянютка, чаго не мелі бацькі. А старым няма месца ў навапакоях; у кухнях яны начуюць, на раскладушках; у мураваных мястэчках рыхтуюць ім кануры з падлогаю і ваконцам у лішніх хлявах (рамантаваных на гаражы і дрывотні)...“*

Так напісаў Яновіч зусім нядаўна. Вока і вуха ў крынкаўскага паэта надзвычай чуйныя. Ён пільна ўслухоўваецца ў наш час, гэты аўтар памятнай „Люцынкі-інжынерыхі“, услухоўваецца ў час, усё болей складаны і складаны.

Аўтар „Сярэбранага ездака“ і „Арышту“ піша, каб паказаць адлегласці, прасторы, якія падзяляюць людзей. Ён дасканала ведае і тое, што *„... кожны жыве са сваёю праўдаю, кожны мае свой свет. Чалавек вельмі многа можа зразумець, але застанецца пры сваёй праўдзе. Будзе саромецца сваёй праўды і адначасова верыць ён дарэшты“* (С. Яновіч, „Ён і іншыя“).

А свет ідзе сваёй дарогаю. Вечны кругазварот...

А першы крынкаўскі беларускі паэт, як сапраўдны паэт, ідзе да сваіх Крынак. Да роднага прыстанішча. Бацькоўская хата, якую адрамантаваў уласнымі рукамі — усё чакае яго.

Яшчэ раз трэба глянуць на свой першы свет.

*„... Крынкі ціхалістыя! Вяртаюся пяцццю дарогамі пыльнымі з пустыняў жыцця ў крыніцах вашых абмыцца. Зняевечаны бізунамі смутку, не паказваюся.*

*Свечкі гаснуць без памяці“.* (С. Яновіч, „Вяртанне ў Крынкі“).

І ўжо прыйшла трэцяя пара...

**Надзея Артымовіч**

(Працяг са стар. 3)

# ВЕРНЫ РОДНАМУ

тве Krajowa Agencja Wydawnicza (пра трагічны стан помнікаў беларускай матэрыяльнай культуры ў Беластоцкім краі). Ужо каторы год чакае сваёй чаргі ў друк том новых апавяданняў і аповесцяў яго, і п'еса „Арышт“ прысвечаная велікану Белай Русі, Браніславу Тарашкевічу. Чакаюць тае чаргі і іншыя творы Сакрата Яновіча, напрыклад раманы „Сцяна“ і „Самасей“, якія апублікаваны толькі ў польскім перакладзе Юркі Плютовіча. Дарэчы, Яновічу пашанцавала мець добрых перакладчыкаў, таленавітых польскіх пісьменнікаў, такіх, як той жа Плютовіч ці Ежы Літвінюк, Ян Гушча і Віктар Варашыльскі, Эдвард Рэдлінскі і Зыгмунт Тжышка, або — Шырын Акінэр з Лондана, Фэрдынанд Нойрайтэр з Аўстрыі, Вацлаў Жыдліцкі з Чэхаславакіі. Дзве рэчы ён сам напісаў па-польску, бо, як кажа, „для палякаў“ — гэта эсэ „Białoruś, Białoruś“, і нядаўна: „W białostockiej krainie“.

Трэба ведаць, што Яновіч пераклаў і выдаў па-польску выдатную кніжку Янкі Брыля „Witraże“, трохі з паэзіі захапляючага Рыгора Барадуліна ці Петруся Макаля. На беларускую ж мову перакладаў з творчасці С. Ружэвіча, С. Срокаўскага, М. Пілята, Я. Адамскага, Я. Леанчука, З. Вуйціка, В. Варашыльскага.

На схіле сямідзесятых гадоў Сакрат Яновіч быў рэдактарам серыі літаратурных кніжыц беластоцкіх аўтараў „Kropelki“, дзе ўбачылі свет польскія пераклады твораў Надзі Артымовіч, Міхася Шаховіча і Юркі Геніюша. Ініцыяваў выдаванне польска-беларускага літаратурнага штогодніка „Rewers“, у якім прыняты прынцып публікацыі твораў польскіх аўтараў толькі ў беларускім перакладзе, і наадварот — беларускіх у польскім. Быў таксама сурэдактарам зборніка „Мост праз стагоддзі — Most przez wieki“.

Публіцыстычныя ж матэрыялы Сакрата Яновіча ў беларускім і польскім друку цяжка пералічыць, цяжка вылавіць і ўсе тыя рэцэнзіі, нарысы і дыпломныя работы, напісаныя пра ягоную творчасць у розных часопісах у краіне і за мяжою, а таксама выпускнікамі польскіх, савецкіх і іншых універсітэтаў.

Іван Мележ пісаў у пісьме Сакрату Яновічу, яшчэ пасля яго першай кніжкі, пасля выдання „Загонаў“: *„З усіх тых якасцей, якія мне спадабаліся, я найперш бы хацеў адзначыць Ваша ўменне бачыць паэзію ў звычайных праявах жыцця, Ваша ўменне перадаць гэту паэзію на паперы“.*

Разам з якасцямі таленту Сакрата Яновіча відаць і якасці яго характару — працавітасць, без якой кожны талент ёсць мала варты, трактоўка беларускага без правінцыяльных комплексаў; шчырасць, без якой няма мастацтва; разуменне справы беларускай культуры як справы не толькі саміх беларусаў. Сакрат Яновіч як чалавек і як пісьменнік не намагаецца прыхарошвацца, не какетнічае, бы паненка, што часамі ажно відаць у некаторых „белавежцаў“. Як гаворыцца, ён „рэжа праўду ў вочы“, застаючыся верным самому сабе, свайму роднаму і вызнаным прынцыпам. Паказвае складанасць жыцця, кпіць з яго брыдкіх бакоў, не называе чорнага белым. Гэта, вядома, не кожнаму да спадобы. Праўду наогул цяжка прыняць, яна пераважна мала прыемная.

Наколькі бяднейшай была б наша культурная ніва без творчасці ды карпатлівасці Сакрата Яновіча. У ёй няма павярхоўнасці, банальнасці ці пустаслоўя. Яго творчасць і яго жыццё гэта адно цэлае, гэта шчырая беларуская кніжыца.

**Ян Мордань**

**Фота Л. Тарасэвіча.**

(Працяг са стар. 3)

# ОДУМ

тайны свой комплекс хама на паркетах.

Дзяцей пагадавалі ж мы так, быццам яны былі не нашымі, а прысланымі ад паноў нам даўгапамятных на ўтрыманне смачнаежнае і выхаванне фінціклюшнае. Раслі панічамі і паненкамі ў нас на хвалу ўсё-такі вясковую, і вазілі ж іх туды што ні свята, у дрымоцце тое прыгуменняў, на паказ абавязковы дзеля цётак з дзядзькамі, а і зайздрасці прыемнай ад суседзяў у заплоцці. Лялькамі разадзетымі і шпанюкамі, якім толькі малака птушынага не хапала!

Як кажуць: і азірнуцца не паспелі, калі сівізна пасыпалася на галовы нашы інеем прымаразку першага і вочы заімгліліся стомаю пасля дарогі такой пыльна-доўгай, малапраезнай яшчэ ў тое вандраванне наша. Песні тыя, што спявалі мы ў вёсны маладыя і ў леты квяцістыя, рэхам беспаваротным адляцелі на той свет, а словы родныя з родных цяпер непатрэбшчынаю на гарышчы хаты або ядлоўцамі на палях удзічэлых староння сардэчнага; душы ў пустапаш пустазельную вырадзіліся. Бацькоў сваіх вось крадком пахаваўшы на могліцах, бяспамяццю зарастаючых за палеткамі пакінутымі, а дзяцей, шумна ў зямлю абяцаную альбо ў амерыкі выправіўшы з кашалькамі тугімі, агледзеліся і самі век дажываючымі, каратаючымі дзень да вечара ды над фатаграфіямі даўнімі галавою ківаючы... Адно неба засталося нязменна зорным і буры пераджніўныя гэтак жа па-маладзецку грымотныя ды захады ў задуменні назаўсёды ціхім барвовыя, і маладзік месяца ў ноч Пятра і Паўла, бы перад колішнімі зажынкамі, цярпліва напамінаючы з нябёсаў над нашаю айчынай зараз пустыннаю, што без сярпа перш не было б хлеба.

Як жылі, так і пражылі. І па законе старасці натужваемся думаць пра раней непрадчуваныя намі тысячагоддзі, разумеючы, хоць бессаромна позна, як блізка, аднак, адыйшліся мы наперад, нягледзячы на зразумелую і слушную гідлівасць нашу да існавання сярмяжнага пад стрэхамі саламянымі, пад якімі проста па-варварску былося. І добра, што прынамсі бяздарна ўяўляем сабе ўсё, колькі нам да спасціжэння неспасціглых Элады і Рыма. Ды пытаем самі ў сябе з сумненнем, як мудрасць: а як гэта нас успамінаць будуць і ці прыстойным словам?

**Сакрат Яновіч,**

чэрвень—ліпень '86.



**Хата з 1860 года, што знаходзіцца ў Мілковіцах-Стаўках каля Драгічына. Графіка У. Петрука.**

# У КАРЫСЦЬ ШКОЛЫ

У мінулым навучальным годзе ў Дубяжыне настаўнікі, школьнікі і іх бацькі шмат папрацавалі грамадскім чынам, каб іх будынак і школьны пляц быў прыгажэйшы і больш функцыянальны. Аб тых вялікіх працах 20 ліпеня пад загалоўкам „У гонар З'езда“ пісалася ў „Ніве“.

Падчас канікул праца працягвалася. Вось, напрыклад, 1 ліпеня настаўнікі і тэхнічныя работнікі малявалі калідор, а школьнікі парадкавалі спартыўную пляцоўку.

**М. Х.**
Фота аўтара



**Настаўнікі на чале з дырэктарам Іванам Сулімам пасля заканчэння малявання калідора.**



**Школьнікі парадкуюць бегавую дарожку.**

# 35 ГОД З Gazeta Współczesna

(Працяг са стар. 1)

ёсць што ўспамінаць. Як з гэтай перспектывы глядзіш ты на ролю „Газеты“ ў нашым грамадскім жыцці?

**Мечыслаў Хая:** Роля газеты абумоўлена яе асноўным заданнем: спадарожнічаць усялякім пераменам, якія здзяйсняліся і здзяйсняюцца на тэрыторыі яе абсягу. Мяркую, што з гэтым заданнем наша „Газета“ спраўлялася даволі паспяхова. Прывяду прыклад. Беластоцкае прадпрыемства баваўнянай прамысловасці, славутыя „Фасты“, некалькі гадоў таму назад, на сваё 30-годдзе, захацела апрацаваць гісторыю гэтага буйнага прамысловага камбіната. І аказалася, што самай багатай крыніцай ведаў пра пабудову „Фастаў“ ды іх пастаяннае развіццё з'яўляюцца старыя падшыўкі нашай „Газеты“. Калі „Газета“ стваралася, мала дзе, мала ў якіх вёсках было ўжо электрычнае святло. Электрыфікацыя, пабудова школ, крамаў, дарог, кінатэатраў або гэтакіх буйных прамысловых прадпрыемстваў, як „Ухвыты“ ці „Бязэт“ у Беластоку, бавоўнаперапрацоўчых фабрык у Замброве і ў Ломжы, дрэваперапрацоўчага камбіната ў Гайнаўцы ці „Тэльзы“ ў Бельску — за ўсім гэтым і за многімі іншымі праявамі нашага грамадскага жыцця ўважліва сачылі журналісты „Газеты“, а пасля апісвалі ўсё гэта на яе старонках. Такім чынам і сама „Газета“ стала неад'емнай часцінкай грамадска-палітычнага краявіду ўсходніх і паўночных раёнаў Польшчы.

**„Ніва“:** Журналістам „Нівы“, а таксама дзеячам і актывістам БГКТ даволі часта даводзіцца выслухоўваць прэтэнзіі ў адрас „Газеты вспулчэснай“, што яна ў недастатковай ступені адлюстроўвае праявы культуры беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Ці ты падзяляеш гэтыя крытычныя заўвагі?

**Мечыслаў Хая:** Толькі часткова. Перш за ўсё мы ў „Газеце“ ніколі не прыдавалі значэння нацыянальнай прыналежнасці таго ці іншага грамадзяніна. Калі ён быў чалавекам, які заслугоўваў на тое, каб публічна яго пахваліць, дык мы хвалілі, а калі не — дык кляймілі яго незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці. Для прыкладу, я тройчы наведваў тваго бацьку Максіма ў Вульцы Нурэцкай, калі ён там праславіўся грамадскай дзейнасцю, калі яго прапанавалі ў паслы Сейма. Дарэчы, самыя лепшыя ўспаміны з маіх журналісцкіх вандровак па Беласточчыне асталіся ў мяне якраз з гэтых куткоў і вёсак, якія пераважна засяляюць беларусы. Ніколі не забуду я сваёй пабыўкі ў Дарожках. Зусім выпадкова трапілі мы туды якраз на праваслаўныя Каляды, „на Вігілію“. Тыдзень часу не хацелі нас людзі адпусціць, перадаючы з вёскі ў вёску. Пачалося ў Дарожках, а закончылася аж у Райску. Памятаю таксама, што менавіта ў даўнейшых Беластоцкім, Бельскім і Гайнаўскім паветах людзі найбольш масава і шчыра ўключаліся ў грамадскія пачыны. І аб гэтым мы пісалі. Адзначыць таксама трэба, што ў „Газеце беластоцкай“ пачыналі свой журналісцкі стаж пазнейшыя вядомыя журналісты „Нівы“, у першую чаргу яе нязменны галоўны рэдактар **Георгій Валкавыцкі**, а таксама **Міхась Хмялеўскі**, **Васіль Баршчэўскі**, ды пакойны, на жаль, ужо **Міхась Баравік**, які нейкі час быў адказным сакратаром ў „Ніве“. Цяпер у нашым калектыве маем сяброў-журналістаў, якія не тояць, бо няма патрэбы сваёй прыналежнасці да беларускай нацыянальнасці. Амаль ад самага пачатку нашым нештатным карэспандэнтам з'яўляецца **Канстанцін Ляшчынскі** з Гайнаўкі, часта дасылае нам свае допісы **Пётр Байко** з Белавежы, які таксама актыўна супрацоўнічае і з „Нівай“. У „Газеце“, калі памятаеш, узнікалі даволі вострыя спрэчкі вакол нацыянальных пытанняў. Стараемся мы аднатоўваць важнейшыя праявы актыўнасці БГКТ. Вось не так даўно, сёлета, пісалі мы і аб свяце беларускай культуры ў Беластоку і аб гульнях у „Ноч Купалы“. На старонках „Газеты“, асабліва ў яе святочных выданнях, змяшчаюцца рэпартажы з усходніх раёнаў Беласточчыны. Вядома, прыдаліся б, магчыма, болей паглыбленыя публіцыстычныя апрацоўкі на тэмы гістарычнага мінулага і сучаснага жыцця беларусаў ды іх культурнай спадчыны. Чакаем тады прапаноў ад знаўцаў гэтай справы. Адну толькі ставім умову: каб быў гэта матэрыял, які яднаў бы людзей.

**„Ніва“:** Дзякую за гэтую сяброўскую гутарку і яшчэ раз найлепшыя пажаданні з нагоды юбілею.

**Мечыслаў Хая:** Я таксама дзякую ўсім „ніўцам“, з якімі зжыўся я, як з самымі лепшымі сябрамі.

**Гутарыў Віктар Рудчык**

(Працяг са стар. 1)




# АДКАЗ НА „ПАКАЗ“ (НЕПРЫДУМАНЫ)

лісьці шмат дапамагалі тут настаўнікі беларускай мовы, але гэта было „калісьці“. Практычна, ніхто не цікавіцца тэатральнай самадзейнасцю, і БГКТ таксама забылася пра сваю традыцыю. Калі пачаў я працаваць у ГП БГКТ, дык вырашыў намагацца адрадзіць аматарскі тэатральны беларускі рух. Нялёгка, вядома, даводзілася, і вынікі пакуль не захапляючыя, але „ўзяўся за гуж, не кажы, што нядуж“. Не паддаюся!

Я даўно марыў пра стварэнне калектыву сцэнічнай творчасці. Некалькі гадоў намагаўся рэалізаваць гэтую сваю мару. На жаль, нячаста сустракаюцца людзі, якіх цікавіць тэатр, хоць ахвотныя паглядзець яго, вядома, знаходзяцца. Спаткаў я некалькі маладых аматараў роднага слова. Зімою пачалі яны збірацца ў клубе Беларускага таварыства ў Бельску. Ніхто з дзеячоў БГКТ не пацікавіўся нашай ініцыятывай (тады я яшчэ не працаваў у ГП БГКТ). Пачалі ад самага простага — вучыліся добра вымаўляць беларускае літаратурнае слова. Пазнаёміліся мы з творамі некаторых „белавежцаў“ і з класічнай творчасцю (Купала і інш.). Сфармавалася група з дзесяці чалавек. Так арганізаваўся паэтычны тэатр „Парнас“. Дзяўчаты і хлопцы падрыхтавалі спектакль „Роднае“ на падставе творчасці „белавежцаў“. Да гэтага дадалі яшчэ сатырычны абразок на матывах аўтарскай сустрэчы паэта. Адбыліся першыя выступленні перад публікай.

Кастусь Сідаровіч палову сваёй публікацыі прысвяціў „Парнасіку“ менавіта (цікава, чаму ён пераназваў). Хваліць ён яго. І адначасова мае сумненні, гаворыць пра „няўмела праведзены музычны фон“, пра „блытаніну дратоў ды апаратуру з мікрафонамі“, пра „не заўсёды добрае выкананне“. Усё гэта трапнае, паважаны Кастусь Сідаровіч, але перад тым, як выказаць свае сумненні ці злосць, трэба было падумаць, што і чаму псавала добрае ўражанне (усё-такі, добрае!). Драты ды апаратура не былі „Парнасавымі“, так што не было чым нам хваліцца. Тыя драты перашкаджалі і дэкламатарам на сцэне. Аднак, дзякуючы гэтым жа дратам ды апаратуры спектакль „Парнаса“ можна было пабачыць потым, 20 чэрвеня, па другой праграме тэлебачання, у „Тэлевізійным кур'еры ваяводстваў“, чым, дарэчы, можна і пахваліцца. А што датычыцца музычнага фону, дык гэта былі толькі музычныя эфекты дзеля змены настрою паміж паасобнымі часткамі спектакля ды дзеля іх спалучэння. Прытым музычны фон падрыхтаваны быў па меры вельмі скромных магчымасцяў „Парнаса“.

Калі ж гаварыць пра мастац-

(Працяг на стар. 6)

# Цяжка жыць па-людску

Ліля з Раманам чакалі аліментацыйнага пераліку. Гутарка паміж імі была такая, што цяжка робіцца на душы, паўтараючы яе.

— Чаму ты ўсё п'еш? — пытала Ліля ў Рамана. — У нас жа двое дзяцей! Трэба ж іх накарміць, адзець, абмыць, у школу выправіць. А на ўсё грошы трэба, і адкуль жа іх набрацца?

— А што мне дзеці? — агрызаўся Раман. — Якая мне карысць ад іх? Патрэбна мне жонка ў пасцель, а не дзеці!

У гэтую размову ўмяшалася нейкая жанчына. — Што вы робіце? — азвалася яна. — Пагадзіцеся, то ж дзеці ў вас.

— Як жа мне з ім пагадзіцца? — сказала Ліля. — Ён, што заробіць, усё прап'е. І яшчэ дакарае мяне, што ў пасцелі я яму слабая жонка. Будзь тут моцнай, калі ўсенька на мае рукі ўзваліў.

— Чаго ты?! — злосна загаварыў Раман. — Падала ж у суд на аліменты, і буду плаціць, але ні граша больш! — Раман расхадзіўся. — Трэба было адразу падаць і на развод!

А тая жанчына ізноў загаварыла, што трэба разам жыць, што без сям'і чалавек дзічэе, і што дзеці робяць патрэбным жыццё бацькоў. А яны абое слухалі яе як бы і з прыхільнасцю, асабліва Ліля, бо яна баба, а бабе заўсёды горш і таму больш згодлівая. І ўсё пачало неяк хіліцца ў бок згоды паміж імі.

Ліля сказала:

— Мне ў чацвер трэба на дадатковую работу, то можа, Рамане, дагледзіш дзяцей...

— Калі дасі на паўлітру, то чаму не, — адказаў Раман. Добра, што ён хоць трохі ўсміхнуўся, што магчыма было зразумець як жарт які, праўда, не вельмі каб разумны.

— Дам табе трыста злотых, — адказала яму ў тон Ліля.

— Што я за тыя трыста куплю, га? Нават на „ніта" не будзе даволі. Ты лепей дай мне з паўтары тысячы або і з дзве, во, тады і дзяцей табе пазабаўляю...

Ліля пабялела ад злосці.

А пажаніліся ж яны з вялікага кахання. І працавалі разам. Пасля шлюбу нейкі час жылі добра, згодна і ціха. Але нарадзілася ў іх дзіця, сынок, а неўзабаве і дачушка. І мужа як бы хто замяніў: зрабіўся сварлівы, ваўкаваты. Перастаў ён дапамагаць ёй даглядаць малых. Стаў выпіваць, начамі валачыцца.

Такімі, пэўна, думкамі была занята Ліля, калі замоўклі.

— Ну і як? — загаварыў Раман. Ён пра грошы, вядома.

— Памаўчаў бы лепей...

— Ну, добра: аліменты мець будзеш. А грошай мне і так стане, і выпіць будзе за што і да бабаў пайсці...

Ліля толькі прыкусіла губы.

Яе і яго зараз выклікалі ў судовую залу, на аліментацыйны пералік. Яны хуценька ўвайшлі туды, быццам чакала іх там нейкае шчасце або іншая ўдача. А незнаёмая ім жанчына засталася адна ў калідоры, у яе таксама была справа. І ёй, відаць, хацелася думаць не пра сваё, а пра Лільчыну і Раманаву бяду. Яна, напэўна, здзіўлялася, чаму людзі жэняцца, каб потым так знелюбіцца?! Чаму крыўдзяць гэтым сябе і дзяцей сваіх? І няўжо гэтак цяжка жыць па-людску? А можа, і цяжка? Хто ведае... — Хто іх ведае, — прагаварыла сама да сябе гэтая жанчына, і хтосьці выпадковы, пачуўшы гэтыя яе словы і ўздых, бадай не здагадаўся б, што было ў яе на думцы.

**Аўрора**

**Увага, чытачы, настаўнікі, прыхільнікі „Нівы"! Ветліва паведамляем, што падпіска на „Ніву" на чацверты квартал бягучага года прадоўжана да 15 верасня г.г. Просім не адкладаць: „Ніва" — ваш прыяцель!**

кармілі, а самі пайшлі туды, куды накіраваў іх воінскі загад. Жанчыны асталіся ў гэтай жа Каянцы, а затым вярнуліся ў Бацікі...

Задоўга было б расказваць аб усім перажытым імі ў гэты неспакойны час, калі між Бугам і Нарваю фронт аж тройчы пераходзіў туды і назад. Астаткова Паліна Яфрэмаўна з абозам параненых чырвонаармейцаў дабралася недзе ў раён Бельска-Падляшскага.

— Там мы трапілі пад нямецкую бамбёжку, — гаворыць яна. — Я схапіла дзяцей і прыкрыла іх уласным целам. Калі паміраць, дык усім разам. Бомба разарвалася недзе зусім блізка. Я пачула гарачы ўдар у галаву. Крыві, на шчасце, не было. І дзеці страшэнна перапалохаліся, асабліва Інка. Яна занямовіла. Тры гадзіны ані слова не магла сказаць. Лекар зрабіў ёй нейкі ўкол, і тады яна ледзь-ледзь з маёй дапамогай прамовіла слова „мама". Ад гэтага і цяпер Інеса Іванаўна крыху заікаецца, асабліва тады, калі ўсхвалюецца...

Так яны апынherіся ў тыле сваёй арміі. Пачалі раз'язджацца па сваіх родных мясцінах. Тады Раіса Кучэрына звярнулася да Паліны Яфрэмаўны за парадай:

— Што мне рабіць, Поля? Як я пакажуся дома без мужа і траіх дзяцей?

— Трэба мець надзею, што твае дзеці знаходзяцца ў нейкім дзіцячым доме, — адказала ёй Паліна Яфэмаўна. — Напішы ты ў Міністэрства абароны СССР і папрасі, каб далі табе адрасы ўсіх прытулкаў, дзе знаходзяцца асірацелыя дзеці савецкіх афіцэраў. А затым ва ўсе гэтыя дзіцячыя дамы адпраўляй пісьмы з апісаннем сваёй гісторыі.

Парада аказалася трапнай. Сярод многіх адмоўных лістаў апынуўся адзін, як жа радасны, ад яе дзяцей! *„Дарагая мамачка!* — паведамляў сын Валерка. — *Мы жывем у горадзе Кузнецк. Жывем вельмі добра. Я — разам з сястрою. Толькі Светы нашай няма. Яна памерла ад адзёру (одры). Летам мы кожны дзень ходзім на яе магілку, а зімою не так часта, бо тут вялікі снег...*" І на доказ прыслалі сваю фатаграфію. Стаялі яны ў цёплых паліто, у шапках-вушанках і выгляд іх сведчыў аб добрым здароўі.

Такім чынам хаця адна гісторыя дзяцей вайны закончылася параўнальна шчасліва. Толькі гэтакіх або падобных няшчасцяў лютая вайна натварыла многія тысячы. Я асабіста яшчэ і сёння атрымоўваю па некалькі лістаў у год, а часам і ў тыдзень з розных куткоў Савецкага Саюза з просьбай, каб дапамагчы ў пошуках. Найчасцей дзеці вайны шукаюць сваіх бацькоў, або хаця месца іх пахавання ці нейкага следу іх прысутнасці. Хто прайшоў цераз гэтае пекла, якое наладзіў нам фашызм, або хаця нейкім чынам да яго дакрануўся, той асабліва хвалюецца і перажывае, калі чуе, што ёсць і зараз у нашым неспакойным свеце людзі і дзяржавы, якім ужо сняцца нават зоркавыя, касмічныя войны. І я разумею рашэнне ўнука Івана Фёдарава, які добраахвотнікам пайшоў адстайваць мірнае жыццё там, дзе імперыялісты рашылі надкусіць мірную працу будаўнікоў свайго лепшага, свабоднага заўтра.

— Цяпер Раіса Паўлаўна Кучэрына жыве разам з малодшым сынам Косцікам, — закончыла Паліна Яфрэмаўна, і мы спахапіліся, што стала ўжо позна і трэба збірацца на адпачынак.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



Віцебск рассеўся над ракою Заходняя Дзвіна.

## Бібліяграфічны куточак

### АЎКЦЫЁН У КЕЛЬЦАХ

У днях 9—10 верасня г.г. у Палацы Т. Зелінскага ў Кельцах, што на вул. Замковай № 5, адбудзецца аўкцыён, на якім будуць прадавацца з таргоў кніжкі, часопісы, карты, аднадзёнкі. Ніжэй падаем, паводле аўкцыйнага каталога, загалоўкі тых выдавецтваў, якія могуць зацікавіць таксама нашых чытачоў:

Poz. 15 — „Echo Grodzieńskie". Grodno, R. 1920, Nr 35 (9.XI). Cena wywoławcza 100 zł.

Poz. 247 — Chodynicki H.: Sejmiki ziem ruskich w wieku XV. Lwów 1906. C.w. 400 zł.

Poz. 291 — Datner Sz.: Walka i zagłada Białostockiego ghetta. Łódź 1946. C.w. 200 zł.

Poz. 330 — Dyakowski B.: Z puszczy Białowieskiej. W-wa 1926. C.w 400 zł.

Poz. 649 — Kubicki P.: Bojownicy kapłani za sprawę Kościoła i Ojczyzny w latach 1861—1915. Materiały... Część druga: Dawna Litwa i Białoruś. T. 2. Za sprawę Ojczyzny (Kler świecki A-O). Sandomierz 1936. C.w. 2 tys. zł.

Poz. 650 — To samo... T. 3. Za sprawę Ojczyzny. Kler świecki (P-Ż) i kler zakonny. Sandomierz 1936. C.w. 2 tys. zł.

Poz. 803. — Niedziałkowska-Dobaczewska W.: Wilno i Wileńszczyzna w latach 1914—1920. Wilno 1934. C.w. 280 zł.

Poz. 997 — Römer M.: Stosunki etnograficzno-kulturalne na Litwie. Kraków 1906. C.w. 400 zł.

Poz. 1068 — Służalek W.M.T.: Nauka cerkwi rosyjskiej o sakramencie pokuty. W-wa—Kraków 1912. C.w. 600 zł.

Poz. 1092 — Srokowski K.: Sprawa narodowościowa na kresach wschodnich. Kraków 1924 C.w. 700 zł.

Poz. 1127 — Studja taktyczne z historii wojen polskich 1918—1921. Tom. 4: Demkowski P. — Bój pod Wołkowyskiem (23—24 września 1920). W-wa 1924. C.w. 600 zł.

Poz. 1128 — To samo... Tom 7: Borowiec S. — Nad Bugiem. Walki osłonowe 7 Dywizji Piechoty (5.VIII—11.IX. 1920). W-wa 1925. C.w. 600 zł.

Poz. 1241 — Urbański Z.: Mniejszości narodowe w Polsce. W-wa 1932. C.w. 2 tys. zł.

Poz. 1242 — Ustawa Białostockiego Towarzystwa Wzajemnej Zapomogi na wypadek śmierci. B-stok 1911. C.w. 100 zł.

У аўкцыёне можна таксама прыняць удзел пісьмова. У заказах, якія трэба кіраваць у адрас: Towarzystwo Przyjaciół Książki. Oddział Świętokrzyski, ul. Świerczewskiego 39/41 (Antykwariat), 25-025 Kielce з прыпіскай на канверце: „Aukcja TPK", неабходна падаць нумар пазіцыі, прозвішча аўтара, загаловак і найбольшую суму грошай, якую заказчык можа заплаціць за выдавецтва.

**Пётр Байко**

## ВЯСКОВЫЯ ДЗЯЦІНЦЫ...

... арганізаваў у ліпені і жніўні сельскагаспадарчы камбінат у Міхалове. Добрую апеку мела ў іх сорак дзяцей. Малышоў вазілі таксама на экскурсію ў Белавежу.

У дзяцінцах адбываліся цікавыя заняткі, было шмат конкурсаў. З мастацкай праграмай выступіў калектыў „Нававольцы". (яц)

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Валянцін Лукша

* * *

*Калі пагоркі*
*запалаюць верасам*
*І барвамі пазначацца*
*лясы,*
*Прыходзіць залаты,*
*Руплівы верасень,*
*І школу*
*Абуджаюць галасы.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Нам многа здзейсніць*
*і прайсці*
*Прызначана,*
*Наперад крочыць*
*Уладарным крокам.*
*Ты, школа, сэрцы*
*Полымем гарачым*
*Напоўніш нам*
*Для подзвігаў*
*Высокіх.*
*І грудзі*
*Шчырай песняй*
*напаўняюцца —*
*Бацькі свой лёс*
*У нашым пазнаюць,*
*І добра,*
*Па-бацькоўску*
*Усміхаюцца:*
*— Ніколі вам*
*З дарогі не звярнуць!*

*Таму, калі гараць*
*Узгоркі верасам*
*І барвамі*
*упрыгожаны лясы,*
*Хвалюемся —*
*Ідзе руплівы верасень,*
*І школу поўняць*
*Нашы галасы.*



**Летам у беластоцкім парку часта адбываліся розныя забавы і гульні для дзяцей. Так было на Дзень Дзіцяці. Фота С. Грынявіцкага.**

Мікола Чарняўскі

### ЗВІНІЦЬ ЗВАНОК...

**Звініць званок, рассыпаў**
**смех наўкола —**
**Ён сумаваў без нас у летні**
**час.**
**Дзень добры, верасень!**
**Дзень добры, школа!**
**Дзень добры, наш утульны,**
**светлы клас!**
**Ты зноў сустрэў**
**сяброў сваіх на ранку,**
**Шчаслівых, загарэлых,**
**гаманкіх,**
**Як буслянят у родную**
**буслянку,**
**Ты нас вярнуў, сабраў**
**гасцінна ўсіх.**
**Пад голас твой, разважлівы**
**і ціхі,**
**Зноў прыйдзе радасць**
**залатых часін:**
**Прашалясцяць старонкі**
**мудрай кнігі,**
**Бы ветразі крылатых**
**брыганцін.**
**Пакліча мара ўдалеч**
**за паўсвета,**
**Па моры,**
**Па траве,**
**Па сіняве —**
**І тое, што забылася за лета,**
**Увіцца, у думках ажыве.**
**А што яшчэ за даляглядам**
**сінім?**
**Дзе нас чакаеш,**
**наша адкрыццё?**
**Плыві ў Краіну ведаў,**
**брыганціна,**
**Плыві на крылах мары ў жыццё!**

Мікола Ганчароў

### ТВАЯ КНІЖКА

**Як белую птушку,**
**Бярэш ты яе —**
**Прыціхне,**
**Адчуўшы далоні твае...**
**Чытаеш —**
**Бяжыць за старонкай**
**старонка,**
**І ўжо не маўчыць,**
**А расказвае звонка...**
**За моры,**
**За горы**
**Ляціш ужо з ёй**
**На крылах**
**Разбуджанай мары сваёй.**

### НОВЫ ДОМ

**Новы дом,**
**Новы дом**
**Вырас проста пад акном.**
**Ён увесь светла-зялёны,**
**Быццам сонейка, балконы**
**Жоўтай фарбай**
**Ззяюць ярка,**
**Аж з нябёс**
**Зайздросна хмаркам!**
**І за гэта ўсё —**
**Ура!**
**Мулярам і малярам.**
**А ў кватэры зазірні —**
**Шмат адчуеш дабрыні,**
**Шмат адчуеш цеплыні**
**Шчырых душ чараўнікоў —**
**Будаўнікоў.**
**Іх заўжды мы**
**Славіць будзем,**
**І няхай на радасць людзям**
**Тут ва ўсіх акенцах**
**Свеціцца па сонцу!**

**Пераклаў з рускай мовы**
**Мікола Чарняўскі**

Алена Мімрык

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ШКОЛА!

Шчаслівая, збіралася я ў школу. Мама купіла мне карычневую сукенку — у складачкі, з белымі карункамі каўнерык і такімі ж манжэтамі. Фартушок у мяне бліскучы, з кішэнямі. У коскі заплецены белыя банты.

Зірнула я ў люстэрка і сама сябе не пазнала. Быццам адтуль пазірала зусім іншая дзяўчынка. Большая за мяне. Раніца выдалася светлая, цёплая. Я ішла побач з мамай і татам і ўсміхалася ад радасці. Яшчэ больш зарадавалася я, што мы з Дзімам трапілі у адзін клас — першы „А“.

Хутка прабеглі ўрокі. І вось празвінеў званок. Наша настаўніца сказала:

— Можаце, дзеці, ісці дадому.

„Ці будзе мяне сустракаць мама?“ — падумала я. Выйшла на ганак і не ўбачыла яе. Ключ у мяне быў. Мама навучыла, як адмыкаць і замыкаць дзверы, і я пайшла дахаты.

Вуліцу не трэба было пераходзіць, і мама не баялася пускаць мяне адну.

Дома я паклала сумку і адразу ж пабегла ў прадшколле. Хацелася хутчэй расказаць маме пра школу, пра настаўніцу.

Мама была занятая. Я ведаю: у такі час да яе нельга заходзіць. Тады я пайшла да выхавацелькі цёткі Ганны. Адчыніла дзверы і стаю, чакаю дазволу зайсці.

— Кацярынка, заходзь, заходзь! — паклікала выхавацелька. — Якая ты прыгожая! Ну, расказвай, як прайшоў твой першы дзень у школе.

— А мы з Дзімам у адным класе! — пахвалілася я.

— Вось добра! Ты ж з ім сябравала ў прадшколлі. Сябруй і ў школе. Ён добры хлопчык.

Мяне абступілі малыя, цягалі за сукенку, за фартушок. Я дазваляла ім усё. Ну і што? Яны ж малыя.

Я трошкі пагуляла з імі. Мама скончыла заняткі, і мы разам пайшлі дахаты.

У вольны час я абавязкова буду прыходзіць у прадшколле. І выхавацелька і малышы мяне запрашалі.

**З кнігі „Верабейка-галубейка“**

Андрэй Савін

## ШЧУПАК

Ніхто не верыў у тое, што я яго злаўлю.

— Тут не толькі шчупакоў, тут нават акунёў няма, — казалі мясцовыя жыхары.

Але я марыў аб шчупаку.

Нягледзячы на гарачыню, я надзеў куртку з каптуром, узяў самаробны спінінг і пайшоў на прыстань. Там, загараючы ў лодцы, чакаў мяне бацька. Хлапчукі, што хлюпаліся ў вадзе, сустрэлі мяне дружным смехам:

— Ты яшчэ б кажух з валёнкамі надзеў!

Вось ужо дзесяты раз кручу шпулю — пакуль што нічога. Хочацца нырнуць у блішчучую ваду, забыцца пра шчупака.

— Дай я спрабую, — кажа бацька, ён не менш за мяне верыць у поспех. — Зараз мы табе пакажам, як трэба лавіць акул і кітоў! Садзіся на вёслы.

Замест таго, каб паслухацца я скідваю адзенне і акунаюся „ў рачную пучыну“. Вынырваю. Вакол творыцца нешта незразумелае: спінінг дрыжыць у руках бацькі, леска нацягнута а пяцьдзесят метраў ад лодкі бліскае нейкая фантастычная рыбіна! У наступны момант вудзільна было ўжо ў маіх руках. Я зацята кручу ручку. Раптам нацяжэнне аслабла — парвалася леска... Тата глянуў на гадзіннік.

— Час, здаецца, абедаць, — уздыхнуў ён, але, глянуўшы на

(Працяг са стар. 10)

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

**Падручнік беларускай мовы для пятага класа**
**Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

**Вітаем пяцікласнікаў з пачаткам новага навучальнага года і прапануем ім пазнаёміцца з новым падручнікам. Кніжка для пятага класа „У нашай грамадцы“ падрыхтавана аўтарамі ўжо год назад і здадзена ў выдавецтва для друку. Маем надзею, што вы атрымаеце яе хоць пад канец навучальнага года. А пакуль што карыстайцеся матэрыяламі з новага падручніка, якія мы будзем друкаваць у гэтым месцы ў „Зорцы“ рэгулярна штотыдзень.**

**Думаем, што тэкстамі з будучага падручніка могуць карыстацца і старэйшыя дзеці, якія не вывучаюць у сваёй школе беларускую мову, а хацелі б яе пазнаць глыбей.**

**Не павінны прамінуць, а пачытаць матэрыялы ў гэтай рубрыцы і іншыя чытачы „Зоркі“, бо знойдуць тут цікавыя вершы, апавяданні, казкі, нават некаторыя правілы пісання і разумення роднай мовы.**

**Жадаем прыемнай працы і адпачынку з „Зоркай“.**

### РАДЗІМА

Лепей за ўсё мне на свеце мясціна
Тая, дзе я нарадзіўся і ўзрос.
Бэз пад акном і на полі каліна,
Ціхае сонца, блакіты нябёс.

Любы мне бору сасновага звоны,
Пошум прысадаў, што ўзбеглі на шлях.
Там, дзе бязмежна пралеглі загоны,
Сэрца ўбірае прыволле ў палях.

Колькі мне маці тут песень спявала,
Колькі радзілася ў сэрцы тут мар,
Колькі мне ласкі жыццё аддавала,
Позіркам шчасця тут гледзячы ў твар.

Тут я быць верным і чулым вучыўся,
Сілу здабыў тут, якой не зламіць.
І сваёй роднай зямлі, дзе радзіўся,
Мне аніколі нідзе не забыць.

**Кастусь Кірэенка**

### ДАРУНКІ

І зноў гамонка поўніць класы,
Як вулей, школа ўся гудзе:
Пра лета слаўнае расказы
Дзятва, сабраўшыся, вядзе.

Хто пра паходы ў захапленні,
Пра сотні ўцех і розных спраў,
А хто — пра песні і легенды,
Што ў родным краі назбіраў.

Хто бераг рэчкі ўспамінае,
Хто — мора ласкавую шыр,
А хто гербарыі вымае —
Дарунак школе ад душы.

Ва ўсіх і радасць і заслуга:
Цудоўна лета правялі,
Найлепш жа той, хто з поля,
з луга
Прынёс у жменях мазалі.

**Ніл Гілевіч**

1. *Чым займаліся дзеці ўлетку?*

2. *Ці вы згаджаецеся з паэтам, які кажа, што канікулы правёў*

*Найлепш жа той, хто з поля,*
*з луга*
*Прынёс у жменях мазалі.*

*Чаму?*

3. *Раскажыце пра самы выдатны дзень ці надзвычай цікавае здарэнне з вашых вакацый.*

4. *Прачытайце словы. Складзіце з імі сказы так, каб атрымалася кароценькае апавяданне. Дайце яму загаловак. Запішыце.*

Канец, верасень, раніца, хваляванне, радасць, школа, сустрэча, апавяданне, захапленне, настаўнік, кветка, звычанне, клас, урок, настрой.

*Знайдзіце ў апавяданні назоўнікі і вызначце іх род і лік.*

5. *Прачытайце. Знайдзіце назоўнікі, вызначце іх лік і склон. Пры спісванні замест кропак устаўце у або ў.*

Сярод таварыша... Сцёпка выдзяля...ся сваёй стараннасцю ... нав...цы, сваёй сталасцю і с...р'ёзнасцю. Нав...ка гарн...ла Сцёпку і давалася ям... лёгка. Часам Сцёпка са сваім прыяцелем Сымонам выходзі... на калідор. Ям... проста было цікава зрабіць пэ...ныя назіранні, каб мець матэрыял ... газет... і праверыць некаторыя свае д...мкі.

**(З аповесці Я. Коласа „На прасторах жыцця“)**

6. *Прачытайце прыказкі аб працавітасці. Пашукайце ў кнігах, часопісах, папытайце ў дарослых і запішыце яшчэ тры-чатыры прыказкі пра гэтую адну з найважнейшых уласцівасцей чалавечага характару.*

Цяжка таму жыць, хто ад работы бяжыць.

Дзе работа, там густа, а ў лянівым доме пуста.

Працаваць не любіш — чалавекам не будзеш.

## Вучнёўская творчасць

### ХЛЕБ І ЛЫЖКА

Хлеб раз лыжцы гаварыў:
— Я калісьці збожжам быў.
Потым мяне змалацілі
І мукой мяне зрабілі.
У мяшку я пасядзеў
Нават у неба не глядзеў.
Потым мяне замясілі,
Белы хлеб з мяне зрабілі.
А ты што? Звычайна лыжка,
Мела б розуму хоць крышку!
Лыжка — ціха, нібы спала,
А нарэшце так сказала:
— Можаш ты і добрым быць,
Але ад мяне і так
Карацей ты будзеш жыць!
Бо мяне толькі ўжываюць,
А цябе з супам з'ядаюць.

**Раман Давідзюк,**
**вучань 7 класа,**
**Барысаўка.**

(Працяг на стар. 9)

## ШЧУПАК

мяне, схаваў гадзіннік: у мяне было з сабою столькі розных прылад, што іх хапіла б, каб вылавіць усю рыбу з ракі і яе прытокаў. Лоўля працягвалася!

На гэты раз я закінуў вуду бліжэй берага: „Шчупакі стаяць у трыснягах“, — калісьці гаварыў мой дзядуля.

Леска зноў нацягнулася — у ва мне ўсё замерла, непатрэбныя думкі зніклі. Але зноў няўдача — зачэпка! Паўгадзіны разблытвалі леску.

— Спознімся на абед, — сказаў тата і пачаў кіраваць лодку да берага.

Вакол было ціха. Трыснёг спакойна пакачваўся, сонца сляпіла вочы. Бераг набліжаўся. Усё гаварыла аб няўдачы. І ўсё ж я закінуў зноў вуду, ды так, што трапіў перад самым трыснягом.

І тут нейкая сіла зашарпала спінінг, вырываючы яго з маіх рук.

— Тата, цягну! — зашыпеў я, яшчэ не разумеючы, што іменна на кручку — рыба ці водарасці. Але ўжо праз хвіліну рыбіна зрабіла сальта ў паветры. Памятаючы аб першай няўдачы, я быў асцярожны — адразу папусціў на некалькі метраў леску. Мінут праз дзесяць, калі рыба супакоілася, тата ўцягнуў яе ў лодку.

Гэта быў шчупак! Цяжэразнае палена з вострай мордай, белыя, сонечныя блёсткі, плямы па баках, цёмная, бліскучая спіна. Сапраўдны драпежнік!

Я быў шчаслівы! Пралятаючаму над лодкай „кукурузніку“ я закрычаў на ўсю сілу:

— Самалё-от! Я злавіў шчупака!

Хлопцы на беразе больш не смяяліся.

— Вось гэта шчупачына! — пазаздросціў нехта.

Рыбу я засаліў. На яе прыходзілі глядзець. Больш ніхто не казаў, што ў гэтай рэчцы шчупакоў няма.

## Вясёлы куточак

Шафёр таксоўкі злуецца на пасажыра:
— Вы ж хацелі як найхутчэй быць у бальніцы!
— Так, але не ў ролі пацыента.

►✶◄

Настаўнік:
— Скажы мне, Пеця, колькі будзе пяць памножыць на 15?
Пеця:
— Я ахвотна сказаў бы, але таксама забыўся.

►✶◄

У першы клас зайшла медсястра, каб зрабіць дзецям прышчэпкі ад хваробы.
— Дзеці, падцягніце ўверх левы рукаў, — загадала яна.
— А на якой руцэ? — пытаецца Міхаська.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

— ✶ —

БССР, 220095, г. Мінск-95, вул. Плеханава, 125, кв. 319. Наташа Дзенісевіч, 6 клас.

— ✶ —

БССР, 211700, Віцебская вобласць, Докшыцкі раён, ст. Крулеўшчызна, вул. Пушкіна, 1. Аксана Мельнікава, 6 клас.

— ✶ —

БССР, 220036 г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, кв. 1. Таня Леванцова, 7 клас.

— ✶ —

БССР, 220001, г. Мінск-1, вул. Маскоўская, 16, кв. 15. Надзя Шчытнікава, 6 клас.

— ✶ —

БССР, 220001, г. Мінск-1, вул. Рабкораўская, 21, кв. 70. Юля Віктаровіч, 6 клас.



**АДГАДАНКА**

Якой сцежкай можна дайсці да лесу, а якой да возера? Ад рамонкаў ці ад канюшынкі?



Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul Wesołowskiego 1.

## СЛУХАЙЦЕ І СПЯВАЙЦЕ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкаму радыё ў суботу 6 верасня а 18-й гадзіне.

### ГУЛЯЮЦЬ ДЗЕЦІ

(З рэпертуару Тамары Раеўскай)

Гуляйце, дзеткі мілыя, ў хаванкі,
Шчаслівыя Алёнкі і Іванкі.
Вясёлыя Валодзікі й Сцяпанкі,
Гуляйце, мае любыя, ў хаванкі.

Хавайцеся у зелені, каб толькі
Не ад вайны, дзе смерць нясуць асколкі,
Не ад варожых танкаў, самалётаў,
Шалёнага агню, каваных ботаў.

Гуляйце сабе, жмурцеся ўволю,
Каб толькі не ад жудаснага болю,
Каб толькі не ад гора ля матулі,
Якой прынеслі смерць ліхія кулі.

Гуляйце, дзеткі мілыя, ў хаванкі
Пад небам, дзе ні воблачка, ні хмаркі,
І сонейка заўсёды свеціць ярка,
Гуляйце, мае любыя, ў хаванкі.

Гуляйце і хавайцеся ў кветкі,
Каб толькі вы знаходзіліся, дзеткі.



Узнагароджанне баскетбалістаў.






### УЗАЕМНАСЦЬ

Пасажыр, прыкмеціўшы, што да яго нехта асцярожна лезе ў кішэню:

— Я вельмі шкадую, грамадзянін, але ў мяне ў кішэні — ні граша.

— Прабачце, але я мушу ў гэтым пераканацца.

### ЧАМУ ГОЛАСНА?

— З кім гэта дзядуля размаўляе?

— Сам з сабою.

— Чаго ж ён так голасна крычыць?

— Бо ён у нас дрэнна чуе.

### МЕСЦА ПРАЦЫ

— Я адзін выконваю работу некалькіх чалавек!

— Гэта лёгка, дык яны таксама нічога не рабілі...

### ШТО РАБІЦЬ З КАРОВАЙ?

Прыбягае задыханы Кузьма да Васіля і, пераведшы дух, пытае:

— Што рабіць, калі карова п'е ваду з радыятара?

Васіль, нядоўга думаючы, адказвае:

— А ты што, не ведаеш? Трэба неадкладна разабраць рухавік, выцягнуць каленчаты вал і трэснуць ім карову паміж рагамі...

### У ЛЕКАРА

На прыёме ў лекара адна пацыентка малола, не змаўкаючы. Раптам той кажа:

— Высуньце язык!

Яна паслухалася. А ён пачаў выпісваць рацэпт.

— Доктар, вы мяне прымусілі высунуць язык і нават не агледзелі яго...

— Я хацеў, каб вы далі мне магчымасць выпісаць вам лякарства.



Калі ўсё праяснілася, у яго пацямнела ў вачах.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— А ў гэтай камеры сядзіць наша гордасць, — паведамляе начальнік турмы наведвальнікам. — Калі ён упершыню трапіў да нас, ён быў непісьменным. Мы навучылі яго пісаць і чытаць. Цяпер сядзіць за падробліванне дакументаў.

*

Сімпатычная веласіпедыстка праязджае скрыжаванне на чырвоны колер. Паставому даводзіцца некалькі разоў свіснуць, перш чым яна спыняецца.

— Вы чулі, як я вам свістаў? — строга спытаў ён.

— Так, — адказала яна, — але сёння вечарам я занятая.

*

— Майму мужу заўсёды страшна шанцуе! Толькі ўчора ён застрахаваўся ад нешчаслівага выпадку, а ўжо сёння яму на галаву ўпала цэгла.

### РАНА ЗАМУЖ

— Хочаш замуж, дачушка?

— Хачу, мамачка!

— А ці не рана, родная?

— Рана, мамачка, рана! Ты ж пральную машыну і спальны гарнітур не купіла.

### НУ І НУ

— Дастань з халадзільніка торт, мілы.

— Калі ласка! На колькі кавалкаў яго разрэзаць — на чатыры ці на шэсць?

— На чатыры. Шэсць кавалкаў мне не адолець!

### З „Весніка Задрыпоніі"

### ЦІКАВАЯ МЕТАМАРФОЗА...

... адбылася ў характары вядомага майстра застольных спраў К. Алкашэвіча. Ён цалкам адмовіўся ад доўгіх традыцыйных тостаў і цяпер абмяжоўваецца толькі іх першай часткай: „Я хачу выпіць..."












### ШТО Ж ЯНЫ ЧУЛІ?...

У ФРГ выйшла кніжка, у якой прааналізавана 1600 вучнёўскіх сачыненняў, аб'яднаных адной тэмай. Вучні атрымалі заданне, якое гучала так: „Хто быў Карл Маркс? Апішыце ў сваім сачыненні, што вы чулі пра жыццё, значэнне і эпоху Карла Маркса..."

І вось што ў гэтых сачыненнях можна вычытаць.

Шаснаццацігадовы гімназіст Торстэн піша пра Маркса: „Ён вучыўся ў нейкім універсітэце ў Маскве ці недзе ў яе аколіцах".

А вось яшчэ адна сенсацыя: „Маркс быў любімым студэнтам прафесара Леніна".

Выяўляецца, марксізм мае таксама непасрэдныя адносіны да касмагоніі: „Там, у Англіі, Маркс напісаў разам з Энгельсам „Камуністычны маніфест", у якім, між іншым, высунены тэзіс, што Зямля ўзнікла разам з іншымі планетамі праз першы выбух", — піша 17-гадовая Марціна.

А ці вядома вам, хто пісаў творы Маркса? Васемнаццацігадовы гімназіст Метхільд ведае гэта дакладна: „Галоўны твор Маркса — „Капітал". Пасля таго Савецкі Саюз стварыў яшчэ 43 тамы".

І на закуску: „Маркс быў апантаны ў грашовых справах. Ён хацеў дасягнуць найбольшы прыбытак і ўвергнуць сваіх суайчыннікаў у галечу". — піша 17-гадовая Анета.




Як мала трэба мець у галаве, каб адчуваць сябе вялікім.